***Біяграфічныя нататкі***

**Я — чалавек, які ведае, як ператварацца ў птушку.**
*Карлас Кастанэда*

**Ян ЗБАЖЫНА (Іван Мікалаевіч Савіцкі)**

Нарадзіўся 31 сакавіка 1964 г. ў г. Баранавічы. Маці — настаўніца матэматыкі і фізікі, бацька — шафёр. Скончыў СШ № 8 у 1981 г., ГПТВ № 61 у 1982 г. У 1993 г. атрымаў дыплом Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Гісторык, выкладчык сацыяльна-палітычных дысцыплін. Працаваў выхавацелем, настаўнікам, сацыяльным педагогам, выкладчыкам ВНУ. Пачынальнік маладзёвага і скаўцкага руху ў горадзе Баранавічы і рэспубліцы. Адначасова займаўся журналістыкай. Адзін з заснавальнікаў Баранавіцкай філіі БАЖа і Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі (АДПБ). Друкавацца пачаў у пачатку 90-х гадоў. Яго мастацкія творы пабачылі свет у часопісах “Бярозка”, “Першацвет”, “Маладосць”, “Полымя”, “Рыцар Свабоды”, “Радавод”, “Абажур” “Res Publica”, штотыднёвіку “Літаратура і мастацтва”, беластоцкім тыднёвіку “Ніва”, альманахах “Дзядзінец”, “Святліца”, “Агледзіны”, мясцовым і абласным друку.

Творчасць Яна Збажыны — гэта сінтэз “філасофіі жыцця” і “плыні свядомасці”, адным словам, “збажынізм”.

Як творца, мае сваіх вучняў, паслядоўнікаў і, найперш, свайго чытача.

*Уладзімір Гундар*

# ЗМЕСТ

*Разважанне аб арыгінальнасці*

## САМАКАШТОЎНАСЦЬ ХАРАСТВА

Алесь Каско

Сёння ўсё часцей гаворыцца пра неабходнасць перагледзець традыцыю беларускай паэзіі. Так, сацыяльна скіраваная, перадусім патрыятычная лірыка, заснаваная на канкрэтных, рэалістычных вобразах, — наша традыцыя. Але традыцыя — таксама і ў «эстэцтве», якім мы лічым агульналюдскія матывы, фармальныя пошукі, сцвярджэнне самакаштоўнасці хараства. Зыходзіць гэтая традыцыя яшчэ ад Сімяона Полацкага, які, у прыватнасці, даў узоры так званых фігурных, або графічных, вершаў. Шмат паэзіі «чыстай красы» ў яе стылёвай разнастайнасці ў Максіма Багдановіча, Уладзіміра Жылкі і ў многіх іншых папярэднікаў.

Імкненне цяперашніх маладых паэтаў да суб'ектывізму і наватарства — гэта ў вялікай ступені імкненне стаць якраз на іхні «забыты шлях», паводле выразу М Багдановіча. Аднак зразумела: каб той забыты шлях успомнілі, неабходны былі пэўныя ўмовы. Пра гэта піша ў сваім лісце, дасланым разам з вершамі, Ян Збажына (Іван Савіцкі, трыццацідвухгадовы гісторык па адукацыі і ўжо досыць вядомы ў рэспубліцы паэт): сацыяльныя перамены спрыялі таму, каб мастацтва «выйшла з межаў «масоўкі» і расклалася па асобах творцаў».

Чым жа характэрныя вершы Яна? Па-першае, аўтар звяртаецца да ўстойлівых вершаваных формаў, як традыцыйных для беларускай паэзіі санета, трыялета і інш., так і нетрадыцыйных, якія актыўна асвойваюцца паэтамі параўнальна нядаўна. Адсюль формы танкі і хоку, уласцівыя японскай і кітайскай паэзіям. Танка пяцірадковы нерыфмаваны верш з дакладнай колькасцю складоў у радку: у першым і трэцім — па пяць, у астатніх — па сем. Хоку — трохрадковы верш з той жа колькасцю складоў у радках — з'яўляецца скарочанай формай танкі. Гэта яшчэ больш ёмістая і лаканічная форма паэтычнага выказвання, разлічаная на тонкае ўспрыманне зместу чытачом. Дарэчы, упершыню сціслы японскі верш у беларускай літаратуры з'явіўся ў 1915 г., дзякуючы майстэрскім перакладам таго ж Багдановіча.

Па-другое, выразная тэндэнцыя Я. Збажыны — разнявольваць напеўны рыфмаваны верш, нярэдка спалучаючы яго з верлібрам і ўзмацняючы графічным размяшчэннем радкоў і строфаў: «Хмары», «Снег», «Сахіра». Апошні з іх можна з поўным правам лічыць аўтарскім

адкрыццём. Сахіра — ад слова «Саха», якім называецца слуп з развілінаю на канцы, што ўжываецца як апора. «Менавіта такою мне ўявілася Беларусь пасля дзесятка гадоў чарнобыльскай навалы», — піша ў каментарыі да гэтага верша аўтар.

Найноўшая паэтычная форма — версэт як разнавіднасць свабоднага верша ці верша ў прозе. Зарадзіўся ён у сучаснай беларускай паэзіі, яго стваральнік — наш зямляк Алесь Разанаў (за кнігу версэтаў «Вастрыё стралы» Разанаў атрымаў Дзяржаўную прэмію) Падаючы гэтую новую форму ў інтэрпрэтацыі Яна Збажыны, адзначым, што маладзейшы аўтар імкнецца пазбягаць прамога пераймальніцтва.

Нарэшце, звяртаем увагу на адзін з вершаў цалкам традыцыйных,. лёгкіх для ўспрымання, якіх зусім не цураецца Я. Збажына, — верш «Восень» Ён лаканічны, пругкі, аздоблены гукапісам і таксама сведчыць пра пошукі здольнага паэта з Баранавіч.

Спадзяемся, што падборку ягоных арыгінальных, у пэўнай ступені эксперыментатарскіх твораў з цікавасцю ўспрымуць як чытачы, так і маладыя паэты.

Газета «Заря» № 143 (11944) ад 12 студзеня 1996 г.

## ГЕРБАРЫЙ

**сыну Усяславу**

* * *

Навошта тая рэўнасць, калі жанчыны гарманічна адна адну дапаўняюць і ўспрымаюцца як часткі адзінага цэлага.

* * *

Моцны пол не мае ўзросту, толькі цела. Супрацьлеглы яму пол (не падабаюцца назвы: дзяўчына, жанчына, рыбанька і г.д.) — узрост: Джульеты, і ўсе астатнія лічбы. Якім дзікуном трэба быць, каб закахацца ў лічбы!

* * *

Жанчыны вельмі хутка выклікаюць аскому. Не абрыднуць толькі мроі аб іх.

* * *

Жанчыне ўласціва шчыра кахаць, але быць шчыраю?..

* * *

Лаліты майго натхнення, як вам яшчэ далёка да Набокава!

* * *

Як сімвал гармоніі, ва ўласным гербарыі хочацца мець на адным сцябле і бутон, і расквітнеўшую ружу.

* * *

Не кажыце: жанчына бальзакаўскага ўзросту - не хлусіце! Гэты ўзрост, дакладней — стан, трэба называць «бадлераўскім».

* * *

Вучаніцы старэйшых класаў не надта ахвочыя да вывучэння гісторыі — кожны вечар у іх дастаткова ўласных гісторый.

* * *

Прыгажосць жаночых ног вымяраецца даўжынёю спадніцы.

* * *

Мастацтва — ніколі не верыць слабому полу і ставіцца да яго так, нібыта верыш.

* * *

У адрозненне ад мужчынскай, здрада жанчыны — адначасова і прадажніцтва.

* * *

У адрозненне ад мужчын, жанчыны разумнеюць не з узростам, а тады, калі перастаюць выклікаць цікавасць першых.

* * *

За ўсё папярэдняе жыццё знаёмы толькі з дзвюма кабетамі, якія чыталі А. Лосева... Як моцна мне пашанцавала!

* * *

Якім трэба быць грахаводнікам, каб спасцігаць душу праз катаванне ўласнае плоці, і святым - праз яе асалоду.

* * *

Забарона свабоды сексу нараджае экстрэмізм. Хто за гвалт — кінь у блудніцу камень!

* * *

А х, якую нянавісць і пагарду адчуваюць да мяне старыя дзевы і сексуальна заклапочаныя кабеты! Вось яны — заканадаўцы і носьбіты маралі!

* * *

Чаго вартае жыццё, якое «перажыло» патэнцыю?

* * *

«Не старэюць душой ветэраны...» Паэты і целам.

* * *

Гэты горад цесны нават для плётак.

* * *

Дзве рэчы нельга шчыра давяраць жанчыне — гэта фалас і маёмасць: ад першага яна траціць свой розум, ад другога — гонар.

* * *

Ж анчыны каюцца не ў грахах, а ў тых памылках, што іх выкрылі.

* * *

Каб утрымаць каля сябе каханага, якому здраджваюць, прадстаўніцы слабога полу часта аддаюць яму маральную перавагу над сабою, тым самым кампенсуючы яго рогі яго ж уласным самалюбствам.

* * *

Калі жанчына агаляе сваю душу, будзь упэўнены: яна задзярэ і спадніцу.

* * *

Калі жанчына не мае кайфу ў ложку, з гэтага не вынікае, што партнёр дрэнны, проста яна яго не мае.

* * *

Мой фалас — гэта толькі пэндзаль, якім маляваў жаночы інтэлект. А жанчыны пралівалі вершамі....

* * *

Мяняйце хутка жанчын, інакш яны паспяваюць вам здрадзіць.

* * *

Тое, што робіцца штораз, не ёсць інтымным.

* * *

У адрозненне ад моцнага полу, жанчыны ніколі не ганарацца велізарнасцю свайго дзетароднага органа.

* * *

Часам рэўнасць да аднаго — лепшы лекар ад кахання да другога (можа таму, што рэўнасць — гэта любіць сябе ў іншым, а кахаць кагосьці ў сабе жанчыне не ўласціва).

* * *

Не ствары з жанчыны казку. Невыносна балюча будзе зноў развітацца з дзяцінствам.

* * *

Пазбягай кахання Шарлоты Кардэ. Спачатку яна заб’е твайго ворага, а потым зарэжа і цябе: з рэўнасці ці ад пасій да твайго сябра.

* * *

Без барацьбы каханне саступае месца толькі нянавісці.

* * *

Для ўладара альбо нават для добрай пасады заўжды ёсць небяспека з’яўлення сваёй Монікі Лявінскай, ды асцерагайся больш не яе, але Доры Брыліянт.

* * *

Не верце ў жаночы інтэлект, яго проста не існуе. Жаночы інтэлект — гэта звычайныя хітрыкі альбо балаўніцтва, разлічаныя на пэўную катэгорыю мужчын, якія ўважаюць сябе інтэлектуаламі.

* * *

Няма істотнай розніцы між дваццацігадовай жанчынай і саракагадовай, чаго не скажаш аб моцнай палове чалавецтва.

* * *

У поглядзе кожнай маці-адзіночкі ёсць нешта жабрачае.

* * *

Ці мае права настаўнік цалаваць сваіх вучаніц? Так, і не толькі цалаваць, калі гэта спрыяе выхаванню і адукацыі апошніх.

* * *

Шмат ад якіх жанчын (нават пры іх падсумаванні) не нараджаюцца нават афарызмы, там-сям яшчэ з’яўляюцца ад іх паўдуркі ды жарты.

* * *

Калі, згодна з Ніцшэ, напісанае прытчаю і крывёю трэба не чытаць, а вучыць на памяць, то напісанае семем і афарызмам дастаткова толькі штораз перачытваць.

* * *

Як паэт, у маладыя гады быў вучнем Авідыя, пакуль з цягам часу не закрышталізаваўся амаль па-стэндалеўску.

* * *

Дзеля таго каб называцца найвялікшым настаўнікам кахання на ўсе часы, Авідыю досыць было б аднаго выслоўя: “Калі

цябе палоніць толькі што расцвітаючая, але яшчэ не выспелая прыгажуня, да цябе прыйдзе дзяўчына ў поўным сэнсе гэтага слова”. Парадаксальна, але гэта думка абессэнсоўвае і вычэрпвае ўсю “Ars amatoria”.

* * *

Быць сабою — гэта строіць сябе так, каб ніхто не здагадаўся, што строіш іншых.

* * *

Каханкі падзяляюцца на дзве катэгорыі: тыя, хто ўтрымлівае цябе і тыя, каго вымушаны утрымліваць ты.

* * *

Не шукайце ў адной кабеце адначасова і жонку, і каханку, і паплечніка. Згубіце іх усіх гэтак жа адначасова.

* * *

Для пераважнай большасці кабет не ўласціва каханне (не блытаць з інстынктам самак быць пакрытымі). Яны здольныя толькі на знаходжанне ў сужыцці.

## НАЧНЫЯ МАТЫЛІ

**хатняму кату Непрападу**

* * *

Адчыненыя нябёсы трымаюцца на далоні дзіцяці.

* * *

Анархізм думкі — у яе нелагічнасці альбо ва ўзлёце духу?

* * *

Артур Шапэнгаўэр параўноўвае кнігу з люстэркам у тым сэнсе, што “калі асёл пазірае ў яго, ён не можа ўбачыць у ім анёла”. Але гэта параўнанне не датычыць непісьменных і невідушчых.

* * *

Археолагі, гісторыкі — калекцыянеры мінулага, альбо некрафілы, як і мастакі, літаратары — стваральнікі мітаў — ніколі не будуць дзейснымі палітыкамі.

* * *

Афарызмы часта нагадваюць атавізмы вядомага.

* * *

Больш чым шчыра, па-шапэнгаўэрску, пагарджаю чалавекамі: не народжаных хадзіць па хвалях вады, без згрызотаў сумлення неабходна зноў вярнуць на дрэвы.

* * *

Богу — кесарава, кесару — Боскае: парадокс, які сам сябе вычарпаў.

* * *

Вораг хутчэй не здрадзіць сабе, чым твой сябар — табе. Можа таму пошук ворага — гэта пошук сябра.

* * *

Вучыць дзяцей, не ахвочых да ведаў, — агідней, чым спаць з жанчынаю, якая цябе праклінае.

* * *

Выгульваючыся ў часе, памятай: сустрэча непазбежна.

* * *

Ганарыся, што ствараеш мараль для тых, хто дакарае цябе ў амаральнасці.

* * *

Гвалтоўнае зачацце менш амаральнае, чым добраахвотны спарон.

* * *

Гісторыя - гэта састарэлая дзева ў пошуках апошняга шанцу.

* * *

Гогаль «аддзячыў» Расеі: з яе ніхто так яшчэ не кпіў.

* * *

Гісторыя чалавецтва распачалася каштаваннем з дрэва ведаў, і ўвесь яго гістарычны шлях - гэта пошук дрэва вечнасці.

* * *

Добры афарызм варты «пэўнай» філасофіі.

* * *

Доказы - заняпад інтэлекту.

* * *

Дрэва, якое не дае плоду, ссякаюць. Аднак зялёныя не згодны.

* * *

Жах смерці кампенсуе бессэнсоўнасць жыцця. Жах — яго марнасць.

* * *

Забіць, каб не пакутаваў, — жорсткасць літасці ці літасць жорсткасці?

* * *

Зерне, кінутае фарысеямі, прарастае і на каменні.

* * *

Зоркі становяцца рэчаіснымі ў лужынах. Яны халодныя і вільготныя.

* * *

З чалавека кпяць, з чалавецтва здзекуюцца.

* * *

Ідэя — гэта свежазасеянае поле. Застылыя хвалі мёртвае зямлі хаваюць жывы плод, наліты новым сонцам.

* * *

Ілюзорная мара маленькай нацыі — бачыць Збавіцеля ў нацыянальным строі.

* * *

Ісціна, агульная для ўсіх, шкодная.

* * *

Каб знішчыць імперыю, часам дастаткова ўкрыжаваць аднаго.

* * *

Калі доўга не страляюць гарматы, гарматнае мяса пачынае смярдзець.

* * *

Калі жывыя не пахаваюць нябожчыкаў, нябожчыкі пахаваюць жывых.

* * *

Калі для з’яўлення збажынізму неабходна знікненне чалавецтва, то апошняе няхай і знікае.

* * *

Калі Уільям Блэйк мае рацыю ў тым, што “ніхто не можа жадаць таго, чаго ён не ў стане адчуць”, то гэта адзіная ўмова існавання чалавецтва.

* * *

Колькасна вялікія нацыі рэпрэсіі ўзмацняюць яшчэ больш, тады як малыя зніштажаюць ушчэнт.

* * *

Кропля дабра пералівае цераз край зло.

* * *

Крывавы ўсход і захад - след Чырвонага Сонейка.

* * *

К алі вы ўпэўнены альбо вам здаецца, што трымаеце свой лёс ва ўласных руках, пакладзіце іх у кішэню.

* * *

Лепей прадаць сяброў і паплечнікаў, дзяцей і бацькоў, уласную веру, чым веды.

* * *

Логіка кожнай ісціны — ілюзорнасць надзеі, ісціна ў поўным сэнсе гэтага слова — голая ідэя.

* * *

Малады нябожчык смерць упрыгожвае.

* * *

Мараль-гэта балаўніца, якая прываблівае прытворнаю цнатлівасцю.

* * *

«Міф аб Сізіфе» - абсурдная спроба ўсвядоміць эмацыянальнае.

* * *

Мы ўсе родам з вар’яцкага дому, дзе размовы хворых тояць філасафічную глыбіню, а паводзіны лекараў нагадваюць тыранію.

* * *

Мяняючы ідэі, знойдзеце скарб.

* * *

Нават пошук сэнсу жыцця прыносіць асалоду. Пошук — вера.

* * *

Нават смерць пакідае мёртвае.

* * *

Навошта спраўджваць тое, што можна ўявіць?

* * *

Нашае ўяўленне аб вечным смярдзіць нябожчыкам.

* * *

Нельга абысціся без нацыі, якая стварае класічную філасофію.

* * *

Не ўкладайце шчырасць у словы — атрымаеце шчодрыя кпіны.

* * *

Не глядзі туды, дзе смутак: там пахавалі Хрыста; не глядзі туды, дзе весялосць: там Яго ўкрыжоўваюць.

* * *

«Не рабі іншым таго, чаго не хочаш, каб рабілі табе». Не жадаю шкадавання, літасці, паратунку, запрашэнняў і г. д.

* * *

Ні на вокамгненне не губляй адчуванне смяротнасці, інакш смерць сама згадае аб табе.

* * *

Не будзіце спячага дракона, пакуль не падрыхтавалі ў яго гонар свята, бо ліха тым, хто будзе не ў святочнай вопратцы.

* * *

Няма большай радасці і шчасця, як на матчынай мове пісаць у сусвет сусвет.

* * *

Напісанае крывёю і прытчаю не патрабуе зносак.

* * *

Пакуль вада шліфуе каменьчык на беразе, каменьчык адшліфуе акіян.

* * *

Ніцшэ пераасэнсаваў чалавека як самакаштоўнасць, Розанаў — чалавечыя каштоўнасці. Прыклад, калі само пераасэнсаванне ўяўляе каштоўнасць.

* * *

Пазіраючы на зоркі, не перашкаджай небу.

* * *

Пакуты набліжаюць да мудрасці, ісціну знаходзіць радасць.

* * *

Памылка Сакрата: філосаф - не вынік дрэннай жонкі; апошняя - вынік філасофіі.

* * *

Паслязаўтра Ніцшэ — у яго замоўчаным. Таму напісанае ім не смярдзіць аўтарам.

* * *

Пасля смерці кожны сустракае самога сябе... Жахліва?

* * *

Рабства ўспрымаюць як трагедыю рабы, і толькі сапраўды свабодныя ставяцца да яго з цынізмам.

* * *

Разам з начнымі матылямі - праз цемру маралі ў святло агню!

* * *

Разбэшчанасць і аскетызм - дзеці інтэлекту.

* * *

Разважанні аб смерці прыемна супакойваюць тым, што і сама смерць падуладная ім.

* * *

Самазабойства - заставацца асобе настаўнікам у казённай школе сярод народжаных люмпенамі.

* * *

Смерць агідная больш за ўсё тым, што разам з табою не памірае ўсё чалавецтва.

* * *

Суцэльную костку галавы можна схаваць толькі ў пагонах.

* * *

Сэнс кожнае думкі — кропка. Шматкроп'е — бессэнсоўнасць...

* * *

Той, для каго імгненне недасяжнае, шукае вечнасці, каму неўласціва вечнасць, хаваецца ў імгненні, і толькі летуценнікам мажлівей мець іх адначасна.

* * *

Тое, што набліжаецца да хуткасці святла, само пераўтвараецца ў святло і губляе свой цень, мінаючы яго.

* * *

Тое, што зіма змяняе лета, а лета зіму, не ёсць доказ, што ў свеце існуе нейкі пачатак і колазварот і тым больш нейкая логіка.

* * *

Той, хто пераступае праз мараль, трапляе ў вечнасць.

* * *

Той, чые дзеці здольныя ахвяраваць сваім жыццём за свой народ, мае гонар быць бацькам гэтага народа і права вырашаць яго лёс.

* * *

Толькі ісціна сама сябе адмаўляе.

* * *

Увесь Дастаеўскі выкрыўся б у трох-чатырох афарызмах, дастаеўшчына — на трох-чатырох аркушах паперы. Расейцы як і дзеці: ім неабходны карцінкі, каб думаць, а не думкі.

* * *

«Увесь свет — тэатр», але чый — Шэкспіра ці Нерона?

* * *

У кожным творцы жыве свой Нерон і ў тыране творца, бо сапраўднае мастацтва, як і ўлада прагнуць да бязмежнасці праз рэчаіснасць і зліваюцца ў адзіным цэлым на вастрыі існасці чалавека.

* * *

Умова існавання кожнай дэмакратыі — заможнасць габрэяў і галеча народа: навошта яны тым, у каго пад нагамі ўласная глеба?

* * *

У таго, хто хоча забраць у цябе маладосць, забяры жыццё!

* * *

Уся глыбінная псіхафіласофія “лекараў”XX стагоддзя шукае і тлумачыць дэструктыўнасць у тых, хто не любіць габрэяў, і ніколі гэту нелюбоў як вынік дэструктыўнай рысы цэлай нацыі.

* * *

Філасофія права Гегеля — усяго толькі ўласны саркафаг аўтара. І не навука здзьмухваць з яго пыл.

* * *

Філасофія Льва Шастова падобная да ананізму, які пры багацці ўласнай фантазіі, гнуткасці ўяўленняў і эмацыянальнай разнастайнасці ўспамінаў прыносіць непараўнальнае здавальненне і жывое семя, але ніколі не нараджае.

* * *

Фром распрануў душу чалавека - і, аголеная, яна засаромелася.

* * *

Фройд засведчыў ісціну, якая памірае разам з чалавекам. Ён забойца чалавецтва.

* * *

Хто доўга ўглядаецца ў зорнае неба, запаліць на ім сваю Батлеемскую зорку.

* * *

Хто ўсміхаецца смерці — усміхаецца чалавецтву.

* * *

Хто не ведае, чым вабілі Хрыста бадзягі, — той не хрысціянін; хто ведае і не бадзяга, — фарысей.

* * *

Цвярозасць — маці мяшчанства. Мастацтва і навуку нарадзілі п’яная блудніца з галодным аскетам.

* * *

Цень чалавецтва знікае там, дзе пачынаецца змрок багоў.

* * *

Цынізм — рэалізм без пачуццяў.

* * *

Цяжка размаўляць сам-насам: заўжды ведаеш, што табе скажуць, і ніколі — што адказаць.

* * *

Чалавечым Ніцшэ абмежаваў чалавецтва, адмежаваўшыся ад дзікуноў сам. Пасля гэтага ў цывілізацыі толькі адно намаганне — выбрацца з гэтае агароджы.

* * *

Чым больш нікчэмнае чалавецтва, тым на яго фоне больш выразным здаецца Гайдэгер.

* * *

Шапэнгаўэр шукаў абсурд філасофіі, астатнія – філасафічнасць абсурду.

* * *

Шлях Еўропе асвятліла вогнішча інквізіцыі.

* * *

Шукаючы святое, знайдзі яго і грэшным.

* * *

Шчырасць апладняе, хлус нараджае, праўда хавае.

* * *

Шчырасць ператварае грамадскае ў забабоны.

* * *

Шарль Марыс Талейран прадаваў тых, хто яго купляў, і як вынік гэтага — ніхто за ім не гандляваў Францыяй.

* * *

Як вынік шкадавання Дастаеўскім зняважаных і прыгнечаных - наданне апошнім уласцівасці думаць.

* * *

Малюся на Ніцшэ, але гэта не перашкаджае Богу бараніць і ратаваць мяне.

## ВЕЦЕР

На працяглай жалобнай ноце,
З завываннем да болю ў вушах,
На слупах, на іржавым дроце
Вецер песню пяе ў адзіноце,
Наганяючы вільгаць і жах.

Так і хочацца дзесьці стуліцца,
Каб не чуць гэтай песні мэталь,
І да сэрца твайго прытуліцца,
І, сагрэўшыся, доўга маліцца
На агеньчыка цёплы крышталь.

## ЯЛІНКА МАЯ

**Алёне Ц.**

Мая каханая дзяўчынка!
Зламаная дзявочасці галінка...
Мая цудоўная дзяўчынка.
Запаленай жаноцкасці лучынка...
Мая жаданая дзяўчынка.
Зляцеўшая апошняя слязінка...
Мая дзівосная дзяўчынка.
Заўжды мая зялёная ялінка!

## САНЕТ

**І.К.**

Застаюся пакуль
каля вас
на тым возеры ў
промнях поўні,
дзе павольна плыве
чоўнам час
разам з голасам
птушкі позняй,
дзе пад музыку хваль дзіўны спеў
пачынаюць паганства духі,
а каруны ляцяць ценем з дрэў,

ахіляючы пекна душы,

дзе над светам лясной цішыні
дыяментавы россып зорак
заклікае ў сурму вышыні,
каб пабачыць ружовы золак.

Там на вогнішчы сэрцаў, натхненняў
засталося жыццё летуценняў...

## ЗОРКА БЭЗУ

Між сабою шапочуцца зоркі.
Срэбны месяц над дахам вісіць.
Вокны хаты глядзяць на пагоркі.
Ледзь начніца ў акенцы гарыць.

Я стаю, зварухнуцца баюся,
Твой спакой парушаць не хачу.
Сцяўшы зубы, скрозь слёзы смяюся,
За табою маркотна сачу.

Мілагучнасцю ў такт паланэзу
Мілы вобраз з акенца мігціць.
Ды духмяная зорачка бэзу
Недзе водарам лёгкім ляціць.

## ПАМЯТЬ

Среди тоски, среди печали,
Кустов сирени и весны
С тобою мы в первоначале,
Где нет ни в ком ничьей вины.

Где нет разлуки, нет свиданий,
Лишь эротична пустота,
Как сновидение, мечтанье
Из ниоткуда в никуда.

Да в голубой пустыне неба
Горит ближайшая звезда,
Неся томительную негу
В мои холодные уста.

И ты, разлюбленная мною,
Опустошенная до дна,
Своею длинною ногою
На грязи чертишь имена.

## **ВІШНІ**

Як верш Бадлера,
як прытча Хрыста,
мігценнем бельым
на вішнях фата.

Вясна ў свой прыцін
рассыпала квет,
ласкавасць ісціць
на ўвесь боскі свет.

Цнатлівых вішняў
кранаю касу
і бога Вішну
няспынна малю:

Шмат'яўны Творца!
Хай вечна тчэ
аральнасць Сонца
жыццём па фаце!

## **ПОЎНАЧ**

Дрэмле вецер на лістоце.
Перабрэх сабак чуваць.
Ноч стамілася, на плоце
Разляглася коткай спаць.

Ды саломаю спавіты
З гарбыля старой страхі
Месяц сканню самавіта
Каранує небасхіл.

## ХВАЛАСПЕЎ КАХАННЮ

Дрэмлюць сузор'і, спавітыя небам, шэрым і цёплым,
як вочы твае.
Маннаю зорак бяздоннай прасторы шлях аксамітны
бязгучна плыве.
Думкі, жаданні, пачуцці і мроі разам губляюцца
велічным сном.
Толькі каханне, як хваля марская, пеніцца срэбным сваім
хараством.
Вечна жывое на пульсе імгненняў поўніць бясконцасць
і сее святло.
Дух і сусвет аб'ядноўвае верай, зернем жывым адраджае
жыццё.

## МЛЕЧНАЕ ТЛО

***(Трыпціх)***

**О, як ты цяжка снішся мне!**
Баляслаў Лесьмян

I
Падае снег. Накрыцца б ім,
Ды нельга. Пад коўдраю спіш дзірвана.
І толькі сненне праз белае сненне
З Лебедзем поруч да Ліры плыве ў
Зорным вэлюме Млечнага Тла.

II
Ты ў Геркулесе, я пад Сонцам.
Між намі тысячы гадоў святла.
Мы сустракаемся ў сненні, і семя
Ліецца Млечным Тлом.

III
Басанож на Млечным Тле

Згадай маю гасцiннасць.
... мiжзорны пыл.

## ПОЎНЯ

Поўня чыстая, поўня светлая,
Паратунак знямоглай душы,
Ахiнi маё сэрца ветлiва
Ў прамянiстую ноч iмшы.

Я заплачу, i слёзы пырскамi
Разляцяцца на небакрай,
Стануць поўнямi залацiстымi —
Ты на пацеркi iх збiрай!

## SUB SPECIEE AETERNITATIS*[1]

**Будь, душа, как живущая звезда...**
Тексты пирамид

Чрез белые влагалища
гробов
мы возвратимся
в плоть земную
и вечность
прорубив крестом
поверхность
вновь начнёт иную
из праха
воскрешенную любовь
и глина превратится в дом
для чьих-то но
не наших пантомим
для траекторий
чувств и судеб
для взлёта и паденья
душ

[1] С точки зрения вечности

что на весах
отмерят судьи
без жалости
уже не нам а им
на миг застывшим
в медный туш
когда-нибудь и мне
в свой горизонт
как фараонам
лечь настанет
и звёздная река
на прядь
Харона
жизни нить потянет
Любимая
взгляни на Орион
звездою там
и мне пылать
лишь Эрос вожделений
над Землёй
не исчисляет
днями время
а в памяти хранит
комет
по элипсам
несущим бремя
рождённым под
неведомой чадрой
спиралевидных
звёзд планет

**ТРЫЯЛЕТ**

Тваіх ног сексуальная готыка,
што пад ветразем шоўку плыве,
так бязмежна хвалюе мяне!
Тваіх ног сексуальная готыка...

І насупраць мараваў жыве
эратычнага мора экзотыка —

тваіх ног сэксуальная готыка,
што пад ветразем шоўку плыве.

## СТОМА

Крыж ля дарогі.
Сонца высока.
Стомлены ногі,
Хата далёка.

Сяду за крыжам —
Засень касая.
Сон прыйдзе рыжы,
Доннасць нямая.

Спіцца салодка,
Свет як магіла.
Час плача ў лотак,
Дзень доўгі гіне.

## ЛІЦЫЯ ЛЕТУ

**Мастаку і сябру Галіне Сігневіч**

Адыходзіць лета, адыходзіць.
Клінга жаўруковая плыве.
І ніколі сэрца не загоіць
жоўтая расінка на траве.

Што каханне? Замуціць крыніцу?
Пасіі згараюць, як агмень.
Забярэцца восень на званіцу,
меднікаў раскідае струмень.

Не гукайце стомленага лета,
Крок яго губляе далячынь.
І сланечнік — сонечнае рэха —
кліча ўсіх пакінутых жанчын.

## ВОСЕНЬ

Кветкі вянуць. Вянуць кветкі.
Вецер ломіць пуставецце,
гоніць пыл і сее смецце
на ачахлыя палеткі.

Неба дзень на мармур хмарыць,
і пад лесу спеў фанфарны
ліст руды ляціць і марна
аб наступным леце марыць.

## ДОЖДЖ

**Ідзі! Ты не ўмееш кахаць.**
Ян Райніс

А на вуліцы дождж,
І надвор'е
не спрыяе ў каханне
гуляць.
Расцягнуўшыся ўздоўж
на падвор'і,
люстраваў бруднай
лужыны пляц.
А пад вокнамі госць
нечаканы
безнадзейна чакаў
дабрыні...
Будзе ў непагадзь хтосьць
некаханы
ў адзіноце шукаць
цеплыні.
Не шкадуйце яго,
не шкадуйце:
без кахання на свеце
ён жыў.
Не ратуйце яго,
не ратуйце
ад дажджу, што мацней
заімжыў.

**ЖОЎТЫ ТРЫПЦІХ**

**Данусе Бічэль — Загнетавай**

**...пажоўклы ліст адзін за адным**
**нясе свой жаль над полем пустым.**
Уільям Шэкспір

I

Адчуванне смерці неабходна
тым, хто хоча вечна жыць, —
жаўцізною восені паходня
доўга будзе нам свяціць.
Адспяваюць птушкі напрадвесні
толькі раз на цэлы год,
асалодзяць нашых боляў песні,
згорклы ў сэрцы даўні мёд...

II

На пытанні, што стаяць спрадвеку,
з цягам часу знойдзецца адказ.
Хваляванні сённяшняга веку
хваляваць не будуць заўтра нас.
Хай жа лёс хвілінай летуцення
нам запаліць жоўтыя агні!..
Тыя словы, рэчы, справы, цені,
з болем сэрца восеньскія дні.

III

Але ўсё на свеце з божай ласкі!
Восень сцеле жоўтым дыванам,
І ўсе стомленыя твараў маскі
ціхім спачываюць сном...

## БУЛЬБА

**Алесю Бакачу**

Ноч. Вароны спяць.
На могілках вогнішча з кнігаў.
Агмень злучыў супрацьлегласці
і працяў цемру.
Дым узнімаецца і не перапаўняе
доннасці.
Думкі вяртаюцца небу, попел —
зямлі.
Смажыцца бульба.
Халодны ўзгорак свежае магілы —
стол на дзве паверхні.
Бульба смярдзіць паліграфіяй.

## РАНІЦА

Ноч цалуецца ў садзе з дажджом
на развітанне.
Час самотна загортвае том
перад світаннем.
Свечка сплакала ценямі воск —
знікла ў люстэрку.
Акаймоўвае сонечны хвост
неба талерку.
Не пакінуўшы след на вадзе,
змрок расчыніўся.
Сненнем-казкаю ноч праплыве,
свет абудзіўшы.

## ХМАРЫ

**Не бядуй, што хмары...**
Максім Багдановіч

хмары дажджом выціраюць
слёзы
мяккаю глінаю робяць лёсы
дождж не свядомы

хмары як людзі зласліва
хлусяць
сварацца б’юцца і зноў
хаўрусяць

ён не істота
хмары не догмы
знікнуць і толькі

рэкі азёры і якіяны
небам склікаюцца
ў караваны

хрысцяць зямное
жывяць і гояць
вока сляпое
колерам поўняць

лётаюць дзіды
грукаюць тарчы
кропяцца сітам
стромкія мачты

людзі як хмары
раскрыжаваны
і ўваскрасаюць на сонцы
схаваным

грэх спалучае
дол і вышыні
караю ў часе
болем прашытым

як у люстэрка гляджу на хмары
гэта завады мае да храма
гэта іконы
трэба маліцца
шчыра да скону
вера імжыцца.

**ДОЖДЖ**

Вечар.
Вецер.
Дождж ліе,
б’е па шкле
крохкім.
Рэжа
межы
даўніх сноў
болем зноў
вохкім.
Соннасць.
Млоснасць.
У акне,
бы ў труне,
вечнасць.
Крочыць

з крозаў
небыцця
да жыцця
вернасць.
Вецер.
Вечар.
Дождж ліе...

## КРЭДА

I
Будуем-разбураем
Вежы,
Шукаем шлях —
Знаходзім межы.

II
Апляванае зоркамі
Неба
І падраны на мне
Чаравік.
Вось крычыць
Нехта з голаду:
— Хлеба!
Ахвярую яму
Ржавы цвік.

## ПРАФАНАЦЫЯ

**Алесю Бакачу**

Зневажаю мараль і плюю ў яе вочы,
А яна, балаўніца, мне толькі рагоча,
Шчэрыць пастку зжаваных зубоў.

Па касцёлах і цэрквах з іконаў святыя
Пазіраюць здаўна.., але гэта не тыя,
Хто сарве кайданы з нас, рабоў.

На слупах ліхтары абмяжоўваюць неба,

І ад іх інтэлекту за горад ганебна,
Вочы поўняцца горыччу слёз.

Ну, а нас абмяжоўваюць хлусам прарокі,
Што разносяць па вуліцах гулкія крокі,
І ад крокаў  па скуры мароз...

## ПЛАЧ

**Віктару Сырыцы**

Каля іконаў плачуць свечкі,
І плача з імі Беларусь...
Абрыдлі артадоксаў спрэчкі —
Нахабны хлус.
Абрыдлі невуцтва і хамства,
Што ахвяруюць на алтар.
І свінства — вопраткаю панства, —
І панства, страціўшае твар, —
...а ля іконаў гаснуць свечкі.

## СТАГОДДЗЕ

**Уладзіміру Гундару**

Айчына. Воля. Барацьба.
Пятля. Астрог і неба ў краты.
Жывога вечная сяўба
І пустазелле, бюракраты.

Гарластых цётак чарада.
Авоські. Клункі. Плёткі. Сваркі.
Штодзённасць...
                        Спрэчкі і нуда.
Нуда і спрэчкі…
                        Святы, чаркі.
Высакароднасць. Грамада.
Вячэра. Лаянка за скваркі.

Крыніца. Маці. Немаўля.
Забойцы. Здраднікі. Пачвары.

Пакутная ў слязах зямля
І лёсам гнаныя ахвяры.

## **РАКАКО**

Міхасю Маліноўскаму

каралі і магнаты
літургіі балі
ад пампезных санатаў
люструюцца залы
святлацень арабескаў
ажур гарэльефнасць
каларыт еўрапейскасць
дэкор-эфемернасць
балаўніцтва балетніц
машнары з узораў
з атуманеных лесвіц
меандр ілюзору
як адлітыя з медзі
разносяць паненкі
дэкальтэ дыяменты
парфуму сукенкі
я ў люкарню дзіўлюся
пуці срэбракрылым

медальёнам і люстрам
цудоўным шматлікім
акратэрыям аркам
пано габеленам
капітэлям аканту
разеткам філёнкам
праз партал да пілонаў
шмыгаю таемна
і пад столлю плафонаў
згалцелы прыемна
прыгажуню шукаю
з вачыма як хоры
і знайшоўшы сціскаю
мармуравы холад
кампазіцый прапорцый
спакусы праходзяць
маскаронамі порцік
глядзіць на стагоддзі

## **СОН**

**Нам трэба спаць…**

Хэрыт Ахтэрберх

У пакоі без вокнаў
цемрай цешыцца вока
і кладзе амулеты
на ўспамінаў шкілеты
і ратуешся сненнем
каб пазбегнуць насення
рэалізму свядомых
і ўцячы ў беспрытомнасць
непраяўленых думак
неразблытаных стужак
нараджэння і смерці

з дыяментаў і смеццяasaлодай цыкуты
асалодай цыкуты
сон касуе пакуты
дэфларыруе краты
ад міжчассяў нязгрэбных

**САХІРА**
***(Чарнобыль. 10 гадоў пазней)***

**Ніхто ўжо нас не выратуе не**
**… … … … … … … … … … … … … …**
**жыццё мінула смерць яшчэ міне**

Сігітас Гяда

салёны
след
скрываўленых
ног
смокча
дзірван

самлела
смягнуць
чэравы
хат
лусты
агню

зляцеў
бязгучна
з поўні
на дол
жоўты
туман

да дня
ў замшэлых
студнях
іскрыць
пена
віна

галодны
бляск
сабачых
вачэй
надабіць
жах

як крыж
сахіры
стрэхаў
нясуць
моташны
лёс

ноч
пры нач
Мілавіцу
дзяўбе
роспачны
птах

па замерлых
вёсках
зноў
басанож
ходзіць
Хрыстос

## СНЕГ

між зямлёю і небам губляюцца межы
снег кладзецца на снег
прабіваючы вечнасць касцёльная вежа
нерухома знікае ў пярэстым бязмежжы
снег кладзецца на снег
ледзянее на вуснах бязмоўна каханне
зошла шкеляцца вочы ад белага ззяння
і цнатлівай дзяўчынаю смерць беззаганна
абдымае і песціць таемным вяртаннем
снег кладзецца на снег
і хаваецца ў боскасці млоснага змроку
што навокал і так неабсяжнае зроку
снег кладзецца на снег
зацярушвае прагу апошняга кроку

## ЖОЎТАЯ ПАСТЭЛЬ

Уладзіміру Траццякову

Шыбы прымерзлі
да зімы.
Малюнкі амлення.

Подых поўні.
Таямніца
адлюстраванага...

Сусвет у ваконнай
раме —
калейдаскоп ільда.

Жаданне ўтаймавацца
на шкле
крышталём святла.

Цёплы пакой.
Вярблюджая коўдра.
Нерухомасць.

За вокнамі
пацеркамі слядоў-
мае крокі.

## У СКЛЕПЕ

**Пыл не здзьмухвай. Прабач і пакінь.**

Марыя Паўлікоўска-Яснажэўска

Вільготным пылам саркафагаў
ля эпітафій бачу час
і ў лаўрах  марную развагу
выяваў — профіль і анфас.
Камень шыхтамі сваю вернасць
няхістка захаваў руцэ,
што й зараз мур так шчыльна тчэ.
Зайздрошчу тым, чый крок паверхня
няўладна больш адлюстраваць —
на павуцінне ўтаймаваць
павук паспеў іх след.
З начніцы
хімера невымоўнасць п'е...
Плыву ў суцэльнай таямніцы,
апошні сведка — сам сабе.

## РУЖЫ

На труне паміраюць ружы
(іх прынеслі сябры для мяне).
І пунсовасці ветразь кружыць
жаўцізну, што ляжыць у труне.

Не шкадуйце мяне, не трэба.
Шкадаванне не тоіць надзей.
Сілай ружы жывіла глеба,
каб памерлі яны для людзей.

## ЭЛЕГІЯ

Вецер, вецер, шаноўны мой вецер!

Белай стужкай далёкіх аблок
Ты нясешся з нябыту на вечнасць,
Ахвяруючы нам халадок.

Я таксама, мой вецер, жадаю
Белай стужкай імчаць над зямлёй
І прамовіць да ўсіх: пакідаю
Вам у спадчыну сэрца спакой.

**P.S.**

Маё сэрца ў нябыт адышло,
паляцела да сонца птушкай,
пакахаў я з маленства святло
і лятучых вясёлак стужкі.

Не задаў я зямнога быцця,
дзе аблокі аблашчыць нельга
І дзе нельга пражыць, як дзіця,
што вачыма цалуе неба.

Маё сэрца ў нябыт адышло,
паляцела да сонца птушкай,
каб вярнуцца ў тваё жытло
мяккім промнем і першай думкай.

**ХОКУ**

I
Вецер і поўня.
Флеш похвы ў срэбным пылку.
Семя і сліна.

II
Дна не існуе:
Бясконцае падзенне —
Шлях да ўласнага.

III
Дождж ліў як з вядра.
Парасону ўсё роўна.
Ён спаў на шафе.

IV
І зноў самотна.
І зноў не снег і не дождж.
Жоўты верабей.

V
Каруны соснаў
Разварушылі сонца.
Трымціць лістота.

VI
Кропкі на сцяне
Утаймоўваюць думкі.
Разглядаю іх.

VII
На шальках вачэй
Пераважвае вільгацць
Вуснаў каханкі.

VIII
Не зацікавіць
Высакароднасць неба
Згорбленасць працы.

IX
Немаўля бачыць
Рэчаіснае ў кроплі
Адлюстраванне.

X
Ноч сярпом жне пыл.
Шпурляю глыж у ставок.
Кругі на вадзе.

XI
Пішу жанчыну.
Далоні ў плямах фарбы.
Немаўля плача.

XII
Паганскі ідал
Ператварыўся ў мараль.
Метамарфоза.

XIII
Па смерці кожны
Сустракае самога
Сябе. Жахліва...

XIV
Распранутая
Прыгажуня ў трупярні
Моцна смярдзела...

XV
Рву эдэльвейсы.
Водару асфадэляў
Прагне каханне.

XVI
Смерць вылучае
Кожнаму асаблівы
Колер вясёлкі.

XVII
Слухаю комін.
Па-за подыхам агню
Дождж, перабрэх. Крок.

XVIII
Трачу прытомнасць:
Цалаваць каханку, як
Падаючы снег.

XIX
Эпітафія:
Малады нябожчык смерць
Упрыгожвае.

XX
Як творчасць Слова,
Жыватворная гліна
Спасцігне Бога.

## ТАНКА

* * *

Каляровая
Нявыказанасць снення.
Пэндзлем раніцы
Размалёўваю Сусвет.
Жывыя святлацені.

* * *

Нябожчык едзе
На могілкі. Воз трасе
Па калдобінах.
Нямазаныя колы
Скуголлем рэжуць вушы.

* * *

Дзве ружы ў вазе
Пакахалі васілёк.
Зайздрошчу яму
І выплюхваю ваду.
Засмяглыя - завянуць!

## ВЕРСЭТЫ

* * *

Закахана пазіраюць кветкі. Зрываю найпрыгажэйшую. Яна расчуленая і павольна вяне.

Крохкія букеты ўспамінаў на сметніку прывабнага. Вяртаюся да кветніка. Водар жывых красак узмацняецца.

* * *

Струна тоіць гук. Бялізна - жаночае цела. Мелодыю ўтаймавалі ноты.

Кранаю струны.

Рапсодыя для дваіх.

* * *

Любая, хто спадарожнік на сцязі твайго лёсу? — Сінтэз бацькі, настаўніка, каханага ці проста сябра?

Праз тваю свядомасць хачу прайсці святам.

* * *

На вёслах Харона ў чоўне-труне праз прастору і час паімчу ў Старажытны Егіпет, калі Сонца было Богам і габрэі — рабамі.

І перад вачыма Ра накладу на сябе зарок ніколі не вярнуцца сюды і ніколі не згадваць, што тут быў.

Не кранайце толькі мой саркафаг.

* * *

Пазіраю ў сябе і бачу, як тысячагоддзямі хлопчык з блакітнымі вачыма ўглядаецца ў бездань неба і безліч вады ля ног яго пранесла хуткаплынная рака.

Знікаюць народы, змяняюцца цывілізацыі, а яго карма — праз вечнасць вартаваць позіркам нявыказанасць...

* * *

Галіне Сігневіч

**...яны былі гэткімі ж
веліч эзнымі ў сваім мастацтве,
як паэт у сваім.**
Готхальд Эфраім Лэсінг «Лаакаон...»

Бачу ў кропцы думкі: свае і чужыя; змяшчаю іх зноў у кропку альбо вызваляю шмакроп'ем.

Але толькі асобным дадзена з кропак пісаць думкі.

* * *

Кэтрын Г.

Ты не Паліна Віярдо, але ж і я не Тургенеў. Аднак і ты спрытна таньчыш па клавішах, як я па паперы.

* * *

**Так хваля ўмее абмыць.**
Сафо

На спіне дэльфіна ў прыстанак Макафея...

— Сафо, зліся ў адну раку са сваімі каханкамі!

## МЕЧ ГЛАДЫЯТАРА
***(Паэма)***

**Не глядзіце на Сонца!**
**Вашым начным вачам хопіць і**
**месяцовага святла.**

Фрыдрых Ніцшэ

**Ч**аго вартыя багацце і пасады, калі яны атрыманы не ў спадчыну, а здабытыя мазалямі і цягам часу. Кар'ерысты марнасці — марыянеткі маралі, на калені перад грамадскім! Толькі на каленях вы здольныя задзіраць адзін перад адным галовы.

Вы гуляеце ў жыццё, як тэатр Шэкспіра. Мне ж даспадобы амфітэатры Нерона. На іх добра прадзьмуваемым з усіх бакоў пяску дзеючыя асобы сапраўды паміраюць і перамагаюць, хвалююцца і кахаюць.., і цешацца, калі пераЖываюць фінал апошняга дзеяння жывое п'есы.

Вы, майстры сцэны, толькі акто，ры, вычварэнцы саміх сябе. А яшчэ пытаецеся, чаму я не карыстаюся агульнаю шклянкаю, а п'ю з пляшкі і абавязкова ў адзіноце.

Я не бачу вас. Вы яшчэ не памерлі, але так і не нарадзіліся. Дзе вы?

Я магу ўспрымаць вас праз кінуты з трапезы думак, абсмактаны ўшчэнт інтэлект, які вы называеце мараллю. Тады ўвесь свет ператвараецца ў амфісцэну. Як гэта прыгожа! Жывая карцінка вашага выяўлення: сваркі і бойкі між дзяржавамі, народамі, класамі...

Натоўп патрабуе відовішчаў (ён стаміўся ад палітыкаў) — муляжа замест хлеба.

Я ўглядаюся ў любоў і нянавісць і не бачу дабра і зла. А вы між любоўю да жыцця і веданнем пра смерць знайшлі абгрызеную костку і прагнеце з яе мяса. Кожны з вас павінен любіць бліжняга, а вы спачуваеце адзін аднаму, ці, яшчэ горш — вы блытаеце любоў з самаахвярнасцю.

Кажу вам: меч гладыятара — гэта пэндзаль, якім фарбуюць жыццё, а не свет у колер жыцця!

## ПІРАМІДА ХЕОПСА

Сержуку Чыславу

**... і велічэзныя іх трохвугольныя плоскасці, выглянцаваныя ад асноваў да агульнай вяршыні, былі з шанаблівай дакладнасцю звернуты да чатырох бакоў свету.**

Томас Ман “Восіп і яго браты”

Болей за ўсё падабаецца сядзець на самым версе піраміды Хеопса.

Сядзець, звесіўшы ногі, паліць папяросу і, зразумела, разважаць сам-насам, сплёўваючы ўніз.

Людзі з гэтай вышыні як мурашы: нечага варушацца, корпаюцца. Нават горш за іх. Мураша хоць адным пляўком можна ўтапіць, толькі прыцямліва пацэліць, а да людзей нават і сліна не далятае — гэткая ж адлегласць! Ды і жыццёвыя прасторы розныя. Я сяджу амаль на кропцы, чхнуць цяжка. Дзе ж тут прыцэліцца добра? Хай не сярдуюць.

А ў іх? Неабсяжная плошча! Мне нават іх далягляд пашырыўся, бо сапраўды далягляд узроўню вачэй належыць. Але хай бяруць сабе, ён мне не да патрэбы.

Дзіву даешся, бачыш далей, а варушыцца небяспечна. Але бачыць далей лепш, чым поўзаць, як сядзець лепей, чым быць мурашом. Кропка як пасад: пазяхнуў лішку — і зваліўся. Затое яна аднаму належыць, а паверхня — агульны мурашнік.

Часам хочацца адкалупнуць пад сабою кавалак блока і адшпурнуць: можа, у каго траплю, хоць сапраўдную справу знойдуць мурашы. А мне зручней будзе, пашырыцца прастора пад азадкам. Азадку шырэй — ды і да мурашоў бліжэй. Увогуле, гэта ўжо будуць не мурашы, да гнаевікоў павялічацца. А яшчэ дасі патугі сабе, напрыклад, прылегчы захочаш — у жабаў ды грызуноў ператворацца.

Так да ваўкоў і быдла можна апусціцца. Не, наконт быдла перабольшыў: большымі за сябе людзі не вырастуць.

Сонца. Надта пячэ. Мала таго што бліжэй да святла — смагу спаталіць няма адкуль. Там, на зямлі, з рэчкі зачарпнуць. Вунь, з вяршыні пірамiды, Ніл, як кудзеля, уецца. Зайздрасць бярэ...

Але, паклаўшы рукі на галаву, чаму і каму зайздросціць? Мурашам? Гм..., ды і кудзелю не п'юць, хіба толькі там, унізе.

А майму небу з сонцам ніщто не перашкаджае, піраміда цалкам належыць — нават цень яе ніхто не ўсведамляе, бо ўнізе толькі тое, што бачна, — тое і разумеюць.

Не! Хай поўзуны глытаюць пыл і спаталяюць смагу!

Для мяне вы ўсё роўна мурашы, а Ніл ваш — звычайная кудзеля.

## ЛЯЛЬКА НОНА

**Сексуальная зацікаўленасць нашага Ганса не ведае сумнення, але яна стварае з яго даследчыка…**

Зігмунд Фройд

Першую дзяўчынку, з якой я пасябраваў, звалі Нона. Нона была суседкаю. І мы разам гулялі ў доктара. Лекі рабіліся з прысмакаў, і дзяўчынка старанна глытала шакаладныя таблеткі і цукровыя парашкі, запіваючы ўсё мікстурамі. Апошнія гатаваліся загадзя, і не адзін літр духмяных варэнняў пайшоў на іх выраб. Лекарскія намаганні не былі безвыніковымі. Мая хворая стала самаю паслухмянаю ў свеце. Глытаючы лекі, суседка рабіла выгляд, што вельмі горка, пунсовыя вусны крывіліся, а вочкі напаўняліся слёзкамі. Тым не менш, Нона старанна выконвала ўсе загады свайго доктара. Далікатна старым шалікам я бінтаваў яе ручкі і ножкі, уводзіў «болі-болі», як мы называлі ўколы.

Каб пераканацца ў сваіх фармацэўтычных здольнасцях, час ад часу, употайкі, салодкае аздаблялася сапраўднымі таблеткамі і парашкамі. Калі не ўдавалася скрасці лекі, апошнія з поспехам замянялі другія хімічныя рэчывы, якія ў вялікай колькасці траплялі мне пад руку. Іншым разам, пасля гэтых рэчываў з цукрам, Нончын роцік пачынаў выдзьмуваць пухіры і суседзі тэрмінова выклікалі хуткую дапамогу. Я ўважліва сачыў за працаю прыезджых лекараў, якая выклікала маю падазронасць. Аднойчы нават вырашыў спрактыкаваць больш якаснае пераклізмаванне, злучыўшы вадаправодны кран са шлангам. Ды разгубіўся, дакладна не ведаючы, у якую з дзірак накіраваць струмень. Вырашыў дачакацца наступнай «хуткай» і быць больш пільным. Але нечаканы выпадак парушыў мае планы…

Нона была не толькі сытым дзяўчом, а і значна старэйшаю за мяне. Пасля дбайнага дэзінфіцыравання жывоціка сінькаю бацькі забаранілі ёй прыходзіць на працэдуры. Маўляў, малы я і блытаю зялёнку з сінькаю. Трэба спачатку крыху падрасці, а ўжо тады займацца лекарствам. Аблаялі дальтонікам. Адным словам, стала мне сумна гуляць без пацыенткі.

Расчуліўшыся, мая маці купіла ляльку, як я і прасіў, з блакітнымі, бы ў суседкі, вачыма і белымі валасамі. Ляльку назвалі Нонай. Другая Нона толькі і ўмела, што плюскаць вачыма, а яе адзіная сукенка набіла аскому. Лялька Нона мне хутка надакучыла, і я вырашыў ахвяраваць яе дзеля навукі. Упільнаваўшы, калі нікога не будзе ў хаце, і на ўсялякі выпадак стуліўшыся за шафаю, малатком раструшчыў ляльчыну галаву. Вельмі цікавіла паглядзець мазгі, бо вонкавае ведаў даволі дасканала. Колькі ні ўглядаўся і колькі ні трос ляльку, нічога не ўбачыў і не вытрас.

За пашкоджаную цацку адстаяў цэлую гадзіну ў кутку. Там і зразумеў: тое, што не было ўкладзена адразу, нават малатком нельга выбіць. А лекарам я ўсё ж такі стаў, сапраўдным стаматолагам. Вось толькі лялька Нона за дзень да майго захворвання ці да знаёмства з чарговай каханкай усміхаецца мне праз сненне.

**БЕЗЗАГАННЫ МЫСЛЯР**
***(Рэфлексія на Фрыдрыха Ніцшэ)***

**Пакінь сябе тут!**
**Ты ў хату ліха не прынясеш**
**Ліха тут само жыве...**

Рыхард Вагнер
"Пярсцёнак Нібелунга"

I

Так было, так ёсць і так будзе, што сонца ў бясконцым вяртанні сябе кружляе над зямлёю, месяц ліе ўласным святлом, а зоркі... вечныя.Шукайце зоркі ў бязмесячную і бясхмарную ноч і знойдзеце ўсіх разам і кожную на сваім асобным месцы. Але бачнасць зорак не вымагае задзіраць галаву, дастаткова заплюшчыць вочы, і іх ззянне разнаколернае напоўніцца рухам, напружаннем і кананнем. А калі хочаце глядзець, накіруйце свой позірк глыбей у зямлю і ўбачыце, як серп Венеры жне чалавекаў, абесчалавечваючы сусвет.

Той, хто пазірае на зоркі, перашкаджае небу, уціскаючы апошняе ва ўласнае мяса і касцяк, і называе гэта душою..., бясконцасць пад скураю ў тлене.

Не, чалавек не забыўся, што ў яго няма хваста, таму і не хоча тлець, як звычайная жывёліна. Чалавек прыручыў агонь і ўзганарыўся над братамі сваімі старэйшымі, якія не ўсмакталі неба. І ўжо не тлее чалавек, а палымнее, і агмень яго — гэта мараль яго: разуменне ліха для сябе і дабра для бліжняга.

Пераступі праз мараль і трапіш у вечнасць, дакладней, у свядомасць, бо створыш новае неба для тых, хто дакараў цябе за зямное.

На брудэршафт з Сакратам цыкуту праглынулі і алімпійскія багі, паабапал ад Хрыста, укрыжавалі юдэйства і Рымскую імперыю, на вогнішчах інквізіцыі згарэла і папства, асвяціўшы шлях да Новага Свету.

Нараджаючыся, мараль крычыць бойкамі, войнамі, рэвалюцыямі, тэрорам. Яе бацькі, аскетызм і распуста, абараняюць сваё дзіця астрогамі, шыбеніцамі, гільяцінамі, вогнішчамі... Да яе

прызвычайваюцца і, састарэлая да забабонаў, яна паміраe ў пакутах, канвульсійна сціскаючы бяззубым ротам за горла маладых і здаровых.

На смак мараль салодка-салёная і плямы яе брудна-бурачнага колеру шурпатымі языкамі злізвае быдла.

А хіба на крыжацкім двуручным мячу не выгравіравана “Пі кроў”? Але жалеза нават вады ўсмактаць не здольна, яно ржавее. Вось вам і чалавек..., на жалезе ён піша аб неіснуючым, а на вадзе аб вечным, а сам губляе свой цень, калі пачынаецца змрок. Ці можа цень быць мераю неба, калі сам чалавек праяўляецца згодна з напісаным аб ім крывёю і прытчаю.

II

...і няма ў чалавека каштоўнасцей, акрамя тых, якія ён здольны забраць з сабою ў магілу. Вось і саромеюцца, двухногія малпы, свайго атрафіраванага за кошт развіцця маралі хваста. “Глядзіце, — паказваючы пальцам на арла ў небе, кпяць двухногія, — як высока залезла гэта пярнатая малпа!” — і складаюць міты, і заганаю для іх памць аб хвасце, якая перашкаджае, яшчэ не памёршы, а ўжо прагнуць вечнага жыцця.

III

На тым, хто не прыняў хрысціянства, не ляжыць загана першароднага граху і яму няма патрэбы выбіраць з дрэва дабра і ліха, бо на яго баку жыццё і смерць не маюць памяці аб хвасце.

Як цяжка ўзняцца над уласным хвастом і якая патрэбна прага волі да ўлады над тым, што не вісіць на азадку.

Таму сцеражыцеся пустэльнікаў і невідушчых, непісьменных і пішучых; і сцеражыцеся тых, хто ахвяруе грошы, і тых, хто просіць; і сцеражыцеся тых, хто палюе разам з драпежнікамі, і тых, хто пасвіцца сярод авечага статку; і сцеражыцеся заканадаўцаў і носьбітаў звычак, а ідзіце ўслед за ваярамі і паэтамі.

IV

Чым жыве той, хто забыўся аб уласным хвасце, калі дзеля гэтага прыносіцца ў ахвяру ўсё чалавецтва ў свядомым?

Што пакінеш сабе?

Шкадаванне аб няспраўджаных каханках і дакладнае веданне аб тым, што ад пачатку наканавана быць тым біблейскім камянём, які адкінуты сёння ўбок і якому наканавана паслязаўтра пакласціся ў доннасць асновы мура тае бабілонскае вежы, на якую ніхто так і не ўзнімецца з яе бясконцасці, бо калі нельга праглынуць неба не патрэбна і вежа, якая вядзе ў НІШТО.

## КАЛІ ВЫ НАРАДЗІЛІСЯ АДАМАМ МІЦКЕВІЧАМ…
*(Эсэ)*

**Міцкевіч быў паэтам**
**усяго толькі некалькі гадоў,..**
**… ён жыў і дзейнічаў як палітык,**
**публіцыст, прафесар універсітэта**
**і прарок, скончыў свае дні**
**жаўнерам.**

Ян Паранодоўскі
«Алхімія слова»

Не давядзі вам Бог нарадзіцца на сумежжы культур, цывілізацый, эпох, у «дзяржаве», ад якой засталася адна назва і «хлопская» гаворка — некалі вялікадзяржаўная мова найбуйнейшай у Еўропе «княскай імперыі», аб чые межы разбіваліся хвалі «сцюдзёнага і цёплага» мораў: у той мясцовасці, якую суседзі з захаду ахрысцілі як Усходнія Крэсы, а суседзі з усходу надалі статус Паўночна-Заходняга краю; сярод таго карэннага народу, які і ўсвядоміць можа сябе толькі «тутэйшым».

Ды яшчэ калі кажуць, што ваш бацька з мазураў, а маці жыдоўка і вы ніяк не «цягнеце» на тутэйшага, а за сваю шляхетнасць трэба змагацца не высакародна - шпагаю ці пісталетам у двубоі, — а ўсімі праўдамі і няпраўдамі ад местачковых да губернскіх і вышэй чынадралаў імперыі «дзвюх сталіц»..,

калі вы спалучаеце ў адной асобе палітыка і мастака-творцу, і, з аднаго боку, вы «асвечаны вальтэр’янец» і цынік, з другога — рамантык і паэт…,

калі, улічваючы вышэй сказанае, ваша каханка аддае перавагу тытулаванаму ваяру-графу і бярэ з ім шлюб, а вы вымушаны працягваць свой радавод згодна з лепшымі традыцыямі «сыноў Ізраіля»...

калі, маючы Бацькаўшчыну, вы не маеце Радзімы, бо для існавання апошняй неабходна незалежнасць, і лёс ваш -гэта бясконцая вандроўка па краінах, і жыццё ваша барацьба за волю…

Тады недобразычліўцы абвінавацяць вас у брудной палітыцы, пры дапамозе якой вы стварылі сабе выбітнасць палітычную вершаплётствам альбо выбіваліся ў літаратуру палітыканствам…,

тады ёсць верагоднасць, што вас атруцяць, каб вы не належалі самі сабе…,

тады нашчадкі ўсіх гэтых міжчассяў і бязмежжаў перасварацца паміж сабою, ірвучы вас на часткі…,

тады шмат якіх бездараў выб'ецца ў таленавітыя, даследуючы вашае жыццё «па костачках»…,

тады вы станеце прыкладам для шмат каго і, акрамя аднаго геніяльна-генетычнага з вамі паэта Уладзіслава Хадасевіча, знойдзецца добры дзесятак «самазваных» папераабруднікаў, якія выкраяць сабе месца ў вашым радаводзе…,

тады вашым імем назавуць вуліцы, калгасы, установы, паставяць помнікі, адчыняць музеі, адзначаць у ваш гонар святы…,

тады вы нарэшце ўцячаце ад сябе і перастанеце быць самім сабою, бо будзеце адлюстраваннем, і адлюстроўваць будзеце цэлую эпоху, ператвараючыся сапраўды ў міжчассе і бязмежжа…,

тады наўрад ці хто зразумее, што ваша роля была ў тым, каб міжчассе і бязмежжа ўкласці ў час і межы… І калі гэта так, то вы - геній, а гэта ўжо па-за межамі свядомага.

## НАРАКАЛА Ж МАЦІ ПІСАЦЬ ПА-ПОЛЬСКУ…
***(Эсэ)***

Як трапна заўважыў гарадзенскі паэт Алесь Чобат, да беларусаў пасылаць Месію даўно не мела сэнсу. Безыменныя і сляпыя, як краты, людзі ўсё ўспрымалі навобмацак. Не ведалі яны ні пра Сонца, ні пра Свабоду і ў бяздушшы сваім былі праклёнам свае зямлі.

Ад песень жальбы сталі яны бязмоўнымі, глухімі, і, каб хто паклікаў іх, то не пачулі б, а каб пачулі, то не зразумелі б.

Ды з Боскай ласкі, каб дарэшты не сканалі гэтыя людзі, час ад часу ўкладалася нейкаму з іх мова, як душа народа. Вось сказалі сваё слова і адышлі ў нябыт Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Янка Лучына, Францішак Багушэвіч.

Але на пачатку шляху да Адраджэння кожнага народа стаіць не Прарок. Першым прыходзіць Паэт, за ім — Філосаф, далей — Прарок, а ўжо потым з'яўляецца і Сам Месія. Без гэтага немагчыма ўваскрашэнне, бо калі мусіла спачатку быць Слова, то і вянчаць будзе Слова, прадуманае, выпакутанае і таму боскае.

Але на зямлю, спавітую вечным туманам, сярод статку авечак з нябёсаў спусцілася заклятая кветка Купалля...

Некалі і некаму яна павінна была сказаць “Вось я” і самой ускласці на сябе Крыжы ўсіх чатырох: Паэта, Філосафа, Прарока і Месіі, бо шмат часу ўжо было страчана!

Зліваючы ў адзінае цэлае хрысціянства і паганства, у дзень святкавання праваслаўнымі Прарока Яна Прадцечы 8 ліпеня 1882 года нарадзіла яна ў Вязынцы таго, каму наканавала сказаць пра сябе: “А беларусы нікога не маюць. Няхай жа хоць будзе Янка Купала”.

Былі і да Янкі Купалы і песняры, і асветнікі, і змагары. Але яму Небам было наканавана стаць Збавіцелем.

Каб Купала не быў паэтам, ён наўрад ці быў бы пачуты афіцыйна, быў бы філосафам без філасофіі; каб не здарылася ні таго, ні другога, ён не стаў бы Прарокам. І ў гэтым адзінстве ён — Месія роднай зямлі!

Ворагі Адраджэння, каб адарваць яго ад Бацькаўшчыны, а Яе ад Яго, рэзалі Месію на “рамантызм” і “трагізм”. Але Купала не быў кавалкам ні таго, ні другога. Тыя, каму не дадзена ўбачыць усё цалкам, пра ўсё будуць меркаваць па сваёй слепаце.

Месія не можа быць нікім, акрамя як Месіяй. Можа таму ў 1930 годзе Янка Купала ўсклаў на сябе рукі. Але дарма. Месіі паміраюць ад лапаў ката, пранёсшы свой крыж уласна і на сваю Галгофу. Толькі так і не інакш.

А Купала і пранёс яго, як належыла пранесці. Нават яго панегірыкі Маскве і СССР, “таварышам” і першаму сярод іх гучалі як сарказм, кпін і здзек з апошніх, што проста нельга было не заўважыць. Нельга было заўважыць гэта і ўголас, бо выключнае права рабіць з Месіі “ворага народа” належала толькі найвялікшаму “сябру ўсіх працоўных”.

Усе запаветы Купалы ў ягоных забароненых “саветамі” вершах: берагчы матчыну мову, жыць у сацыяльным і класавым адзінстве, вучыць дзяцей роднаму, шанаваць мінуўшчыну і людскую годнасць, варожае бачыць толькі ў разбуральным, не мець нянавісці

да нашых народаў, не шукаць раю ні ў Маскве, ні ў Варшаве, гнаць трутняў усіх кшталтаў, бязлітасна нішчыць ворагаў.

Янка Купала ахвяраваў сябе выратаваць наш народ, але беларусы наракалі і наракаюць на яго, што пясняр не плакаў разам з імі. Беларусам не трэба сонца, іх далоням хапае і бляску чырвонцаў.

Таму Купала належаў усім і нікому, як кожны Месія, і яго прароцтва заўжды будзе належаць заўтрашняму дню.

Бальшавікі, манкурты, калабаранты рабілі мёртвым купалаўскае жывое слова. Маўляў, паэт не зразумеў, не ахапіў, памыліўся, а таму пакаяўся і адрокся.

Але жывы паэт усё зразумеў, усё ахапіў, не памыліўся і не разгубіўся, а таму не адрокся і не пакаяўся.

Падчас ліхалецця 1937 года Янку Купалу выбіраюць у склад секцыі паэзіі ССП БССР, у склад прэзідыума Праўлення СПС СССР, дэпутатам Мінскага гарадского Савета...

За немцамі ў Мінску яго імем называюць вуліцу...

У вызваленым ад немцаў СССР называць вуліцы імем Купалы стала правілам...

У захопленай гітлераўцамі Беларусі дзеячаў беларускага Адраджэння вынішчалі гестапаўцы і бальшавіцкае падполле. Ахвяры спісвалі адзін на аднаго.

Галгофай для Янкі Купалы стаў лесвічны пралёт дзесятага паверха маскоўскага гатэля “Масква”. У НКВДысцкіх пратаколах “крайнімі” сталі “неспадзяванасць” і “трагічнасць” абставінаў. А ў акупаваным Мінску фашысты забаранілі распаўсюджваць усялякую інфармацыю пра смерць Купалы.

А мажа і сапраўды трэба было паслухацца маці і пісаць па-польску?..

Адно слушна: назваць Купалу беларуска-савецкім паэтам язык не паварочваецца. Калі ён нарадзіўся, то “советской Белоруссии” не было ў свядомасці, а калі загінуў — у “натуры”.

## “МЫ НЕ УСПЕЛИ ОГЛЯНУТЬСЯ»...
***(Эссэ)***

...как прошло двадцать лет со дня смерти Владимира Высоцкого, чьи жизнь и творчество до парадоксальности парадоксальны.

Поэт, бард, актёр, дитя войны и коммуналки, он, презиравший люмпенпролетариев, был их кумиром.

Он, пародировавший «блатной мир», сам стал в народном сознании блатным.

Любимая им гитара стала его спутницей, самой верной...

Он, провозгласивший, что любить Америку может только буйнопомешанный в психушке, стал для толпы чуть-ли не диссидентом.

Он, (официально) неофициальный глашатай, выполнял роль «беззубой старухи», разносившей настроения партии и правительства по «домам и ушам», являя собой единство партии и народа.

Он любил справедливость и, не желая того, сглаживал социально-экономические противоречия развитого социализма.

Он заставлял смеяться там, где надо было плакать.

Он ценил живой и натуральный голос со сцены, а всеобщей своей славой обязан электронной новинке — магнитофону, мода на который преумножала и его популярность.

Его «песенного стиха» хрипящий голос так навсегда и останется звучать в 60-е — 70-е годы XX столетия, долетая иногда завывающей ностальгией по брежневской застойной эпохе, когда зелень была зеленее, вода мокрее, люди добрее, и все мы — одинаково нищие.

## З ДЗЁННІКА ПАДШЫВАНЦА...

* * *

Цэлы год працёгаўся да каханкі. Знахабнелая, яна пачала патрабаваць, каб я пазнаёміў яе з бацькамі. Я адказаў, што яны будуць і не супраць, калі гэта спадабаецца маім жонцы і дзецям. “А чаму ты не казаў раней, што маеш шлюб?” — утаропіўшы вочы, запытала яна ў мяне. “А ты ніколі і не пыталася”, — шчыра адказаў я.

* * *

Зраніцы, пад’еўшы ў аднае каханкі, пайшоў да другое. Ежа ўжо не лезла, хціва піў толькі каву. А ў трэцяй кабеціны ўжо нічога не еў і не піў, адно толькі ваніґавала. Відаць, шмат кавы выпіў, і густое. Але кавы шкада не было. Шкадаваў сняданак, што за каваю сышоў услед. Вярнуўся зноў да другое каханкі і, помсцячы, цэлую банку нэскафэ высыпаў ва ўнітаз. Змываў на яе вачах. Хацеў і каханку адправіць услед за сняданкам.

* * *

Больш за год нідзе не друкавалі. Казалі, што слабыя тэмы. Ад злосці на рэдактараў давёў свайго сябра мастака да самагубства. Мой некралог на яго заўчасную смерць быў надрукаваны ў раёнцы і абласной газэце. Цяпер шкадую. Трэба было пачакаць яшчэ большага разьвіцця яго мастацкага таленту. Можа, надрукавалі б і ў цэнтральнай прэсе. У ёй прэстыж і ганарары большыя. Што і казаць, паспяшаўся.

* * *

Падпіўшы на вяселлі былой каханкі, пачаў узьнімаць тосты за яе сексуальны вопыт і здольнасці. Прыкусваючы, адначасова паказваў рожкі маладому, ківаючы на маладую. Малады, плюнуўшы, з’ехаў, маладая страціла прытомнасць. Мяне выпхнулі ў плечы праз акно. Сумна і згадваць колькі засталося гарэлкі на сталах.

* * *

Атруціў суседскага сабаку палохаў мяне, калі я выкрадаў яйкі з курачніку. Сусед набыў другога, яшчэ большага, навучанага не браць ежы з чужых рук. Тады я атруціў суседавых кур. Дзівак сусед — нашто мне яго куры, калі я не магу ласавацца яйкамі.

* * *

Пасталелі і патлусцелі мае аднакласніцы.

І вось ужо не іх, а іх дачок праводжу дахаты і, як некалі іх матак прыціскаю да сцяны паўцёмнага пад'езда. І, як некалі, гэтак і зараз, іх язычкі яшчэ несpraktыкавана і паўсмела слізгаюць па маім паднябенні.

І я ўспамінаю свае чатырнаццаць гадоў і іх матуль.

Пасталелі і патлусцелі дочкі маіх аднакласніц.

І вось ужо не іх, а іх дачок праводжу дахаты і, як некалі іх матак прыціскаю да сцяны паўцёмнага пад'езда. І, як некалі, гэтак і зараз, іх язычкі яшчэ неспрактыкавана і паўсмела слізгаюць па маім паднябенні.

І я ўспамінаю свае чатырнаццаць гадоў і іх матуль і бабуль.

Пасталелі і патлусцелі дочкі дачок маіх аднакласніц.

І вось ужо не іх, а іх дачок праводжу дахаты і, як некалі іх матак, прыціскаю да сцяны паўцёмнага пад'езда. І, як некалі, гэтак і зараз, іх язычкі яшчэ неспрактыкавана і паўсмела слізгаюць па маім паднябенні.

І я ўспамінаю свае чатырнаццаць гадоў і іх матуль, бабуль і прабабуль.

Пасталелі і патлусцелі дочкі дачок дачок маіх аднакласніц...

## ДАГОЙДАЛІСЯ

Руслану Равяку

**Гумар — заўжды гумар шыбеніка, і ў выпадку патрэбы вы навучыцеся гумару менавіта на шыбеніцы. Вы падрыхтаваны да гэтага? Так?**

Герман Гесэ "Стэпавы воўк".

**Вешаць Малакі належала згодна пэўнаму ўзору. Абавязкова за шыю. І вузел быў прадвызначаны строга: коўзкая пятля ката.**

Курт Ванегут «Сірэны Тытана»

I

Самыя няўдзячныя сярод нябожчыкаў — гэта шыбенікі. Мерна пагойдваючыся на ветры, яны ўшчэнт расхістваюць шыбеніцы. А якая карысць з расхістаных шыбеніц? Хіба на дровы.

Навукоўцы ў гэтым гойданні пэўную сістэму вынайшлі, хаця і адносную. Для іх увесь свет уяўляецца як шыбеніца і шыбеніцтва. А я б гэтых гуманістаў дагары нагамі падвешваў на іх канцэпцыях. Хай бы відавочна ўбачылі, адносна чаго і каго шыбеніцы псуюць і хто навучаў так рабіць...

Сама па сабе шыбеніца, ды яшчэ з шыбенікам з коміна не выскачыць, варажы не варажы, а цесляру і кату заплаці.

Шыбеніца не арэлі, а павешанне не дзіцячая забаўка. Тут адпаведныя манеры патрэбны. Толькі вузлоў петляў звыш двухсот існуе, ад класічных да мадэрн: вось і дагадзі кожнаму да шыі. А з якім спрытам падстаўку з-пад ног выбіць трэба. Местачковае простанароддзе перайначыла назву прафесіі ката спецыялізацыі "ля шыбеніцы" па-свойску, па простаму: "манернік". Таму катамі і не нараджаюцца — гэты боскі талент небам даецца тым, чыя шыя пабывала ў пяньковым гальштуку і не зацiснулася. Тады ахвяра мяняецца месцамі са сваім катам. Гэта закон роду чалавекаў, своеасаблівае, калі хочаце, звышнатуральнае права: "зашмаргні бліжняга свайго, інакш бліжні ўціснe цябе". Колькі ні наракаў шыбенікам — усё як гарохам па вадзе: кругі ідуць пустыя, а толку мала. Жахліва і глядзець

на іх: як незашмаргнутыя петлі. Загадзя просіш: “Робяты, не гойдайцеся, смірна вісіце, для жывых узорам гэта будзе”. Але з такімі шыбенікамі, як нашыя, местачковыя, на шыбеніцах не вельмі і нажывешся. Ім, дурням, што ў лоб, што па ілбе, абы вецер дзьмуў. Вось і давялі, як спачуваў некалі класік, што павешанне ў мінулае адышло, адзін працэс толькі застаўся — давыпендрываліся “герої”.

II

А на памяці як было! Жывое відовішча! Уся вёска збярэцца, начальства ўсялякага з райцэнтра напрыязджае. Сталы за дзяржаўны кошт накрываюць. А хатняга колькі пананясуць! Тут табе і каўбаска, пальцам пханая, і паляндвічка, і сальца вэнджанае. Без пляшкі самаробнай прыйсці — у сабакі вачэй пазычыць. Ну, начальству і хто пры ім, як вядома, месцы ля самай шыбеніцы пакінуць. Кату і ахвяры — самыя ганаровыя, на эшафоце.

Для будучага шыбеніка гэта свята ўдвая: ён герой дня, дзеля яго шыбеніцу талакой ладзілі, на яго прышлі падзівіцца! З эшафоту нават начальніку дулю можна паказаць, у кішэні трымаць ніякага сэнсу больш няма — з працы ўжо не скароцяць. І на шырокія колы грамадскасці плюй, пакуль у апошняй сліна цячэ (ураднік з цівуном пільна сачылі і моцна па руках білі тых, хто да канца павешання нешта са сталоў хапаў). А на цябе праз галовы начальства ніхто і так пляваць не будзе. Хаця б дзеля апошняга жадання варта на эшафот узысці, пажадаеш, і на зайздрасць і на здзек з іншых да пупа перш за іх наясіся, цыгарку імпартную можош выпаліць, альбо вядро гарэлкі запатрабуй. Тады да пятлі цябе як паніча панясуць, а ты на ўсё горла спяваць будзеш, а то лайся, пакуль дыхаецца. Нават ванітаваць на вачах вялікага схода не сорамна, бо надыдзе час, і вышэй за ўсіх узнясуць, нават, за самага найвялікшага начальніка.

III

А які шыбеніца мела натоўпны паказальнік! Яна ж грамадзянскія пачуцці абуджала: адзін з уласнага надворка бервяно цягнуў, другі аборкай дапамагаў, трэці мыла нёс.

У сваім апошнім слове перад павешаннем гейдэльбергскі і берлінскі прафесар так абессмяроціў шыбеніцу: “Філасофія крыўды ў тым, што каля шыбеніцы адказнасць шыбеніка і віна тых, хто яго карае, узаемна касуюцца відовішчам законапаслухмянага народа”. Пагадзіцеся, кожны смяротны, прыйшоўшы да гэтых высноваў ніколі

не сканае ад якісь там сухотаў, альбо, горш яшчэ, ад халеры. Гэта проста не можа ўкласціся ў галаве патэнцыяльнага шыбеніка, таго, хто за пазухай не глыж трымае, а аборку; таму гэта і не магчыма быць.

Увогуле, калі вы мысляр, а не цясляр ці паэта, то без аборкі вам не абысціся, бо ў іншым выпадку, без яе, вы звар'яцееце, будзеце хапацца за цыкуту, рабіць ін'екцыю альбо вас раздзяруць сабакі; а самы загадкавы верш пішацца перад павешаннем.

Для вёскі шыбеніца другой царквой стала, гэткім рухавіком прагрэсу. Бо шыбеніца не крыж — на ёй няма крыві, а шыбенікі яшчэ ніколі і нікуды не знікалі. Пасля ката з імі народныя ацаляльнікі практыкавалі: вантробы іх перакладалі, на мазгі глядзелі, ды ці мала куды там яшчэ глядзелі. Медыцына на ўзроўні была. Апошнім часам усе шыбенікі акурат здаровымі людзьмі былі.

На шыбеніцы нават стары маладзеў. Кампетэнцыю ў гэтым нават маем. Каб яе ўсенародна засведчыць, Джойс ажно раман склаў. Вось яны, доказы: "Выдатны навуковец гэр прафесар Люітпольд Блюмэндуфт прадставіў медыцынскія абгрунтаваньні таго, як у выніку раптоўнага пералому шыйных пазванкоў і пасьлядоўнага за ім разрыву сьпіннага мозгу, згодна з агульнапрызнанымі прынцыпамі медыцынскай навукі, непазьбежна ўзьнікае гвалтоўнае гангліённае стымуляваньне нэрвных асяродкаў генітальнага апарату, якое вымушае хутка пашырацца поры "пячорыстых целаў", што ў сваю чаргу рэзка павялічвае прыток крыві да часткі мужчынскага арганізму пад назвай пэніс і выклікае фэномэн, менаваны ў медыцыне паталягічнай філёпрогенітыўнай вэртыкальна-гарызантальнай эрэкцыяй "у момант сьмерці, выкліканай аддзяленьнем галавы".

IV

Цяпер жа да чаго дагойдаліся? У сталіцу вязуць. А там без папярэджання ў смярдзючым падвале кульнуць у патыліцу ды бірку на палец на памяць пра забойства. З-пад шыбеніцы нават лісты да народа пісалі; сама пятля з шыі на рэпартаж натхняла... А ты не ведаеш, на калі і прамову скласці. Праўда, якая там прамова! Там хоць крычы, хоць драчы, ніхто не ўбачыць, ніхто не пачуе. Адно толькі добра: з мянтом гандляваца не трэба. А перад павешаннем колькі з цябе яшчэ самагонкі здзяруць, каб вяроўка добра намыленая была, добра душыла. А ў падвале і так заб'юць, без торгу, моўчкі.

Адным словам, працэс.

Але яшчэ помнік Верлену з падзёўбанымі грудзямі і абгрызенымі пятамі сярод варонаў і ваўкоў ды выцвелыя лёзунгі згадваюць аб былым  росквіце шыбеніцтва:

**Рыхтуй сані летам, а аборку з раніцы!**

Дзе-нідзе чуваць яшчэ жывое народнае слова, складзенае ў хаце шыбеніка яго сваякамі, накшталт гэтай прыказкі: “Паляўнічы без ваўёркі што заможны без аборкі”.

Што і казаць, аборку з усяго можна зрабіць. Яна выратуе нават тады, калі ў кватэры за даўгі адключылі газ, а на новае лязо трэба пазычаць грошы і загаддзя ведаеш, што ніколі іх не аддасі.

І калі пагадзіцца з адным з астролагаў эпохі Малік-шаха, што чалавек — гэта каштоўны камень, то трэба і дадаць, што аборка яму — адпаведнае абрамленне.

V

Там-сям яшчэ знаходзяцца патрыёты: саматужна вешаюцца. Далёка па прыклад хадзіць не буду, раскажу пра суседа.

Зранку яму жонка кажа: “Скаціну напоіш — дам пахмяліцца”. Сусед па-свойму перайначыў: “Пахмялі спачатку, тады і напаю скаціну”. Але баба больш упартай была. Сусед толькі скрозь зубы і паплакаўся: “Век табе самой скаціну паіць!” Ды як бразнуў дзвярыма!

У студні вешаўся. Меркаваў, жонка адчыніць студню — а там ён вісіць. Тады зразумее, дурніца, што самой вёдры цягаць давядзецца. Усё жыццё з гэтай прычыны каяцца будзе.

Вяроўку добра да кораба не прывязаў: рукі трасліся (вядома ж, не пахмяліўся). Пятля нават і не зацiснулася, як сусед уніз скочыў... Утапіўся.

Яшчэ адзін прыклад: другі сусед.

Звечарэла ўжо, вось толькі кароў прыгналі, а ён да жонкі як слата прычапіўся: дай яшчэ на адну пляшку, і ўсё тут. Святая справа — “дагнацца “ чалавек хацеў. Баба параіла мужыку спачатку карову падаіць, паабяцаўшы за гэта “дагнаць” яго да кандыцыі. Але гаспадар больш упарты быў. Тая яго з вачэй прагнала. Дык ён са злосці на бабу ўсё роўна на вочы ёй вырашыў трапіць: у хляве вешаўся. Дакладна разлічыў: пойдзе яна карову даіць, заадно і настрашыцца. І вяроўку добра замацаваў, і моцнаю вяроўка была... Бэлькай забіла, не вытрымала яна, замшэлая, і трэснула.

Адзін доўга пахмяляцца загадаў, другі даганяцца. Абодва вешаліся і не павесіліся, бо ўсё саматугам рабілі. Гэткіх прыкладаў і не пералічыць: той на аголеных правадах вешаўся і закараціла; а той ад жончыных вачэй у лес з вяроўкай сігануў, дзе яго звер ліхі падпільнаваў. Паммайстра з цесляром (толькі жонак сабе пабралі і адразу ж высветлілі, што жонка паммайстра жонкай цесляра павінна была стаць, і наадварот), а ўжо ў мехмайстэрні на нейкіх ланцугах крыўду хацелі задушыць. Не паспелі сябрукі-таварышы і па пляшцы пальнуць для бадзёрасці духу, як іх за тыя ланцужкі па розных баках і расцягнула. Гэта небарака практыкант-пэтэвушнік, сп’яну-здуру забаўляючыся, гарызантальны прывад да электрычнасці падрубіў. Ён ужо потым на следстве сцвярджаў, што ў спешцы рубільнік з ручкай унітаза зблытаў. Але гэта ўсёроўна нічога не мяняла. Дзецюкам вертыкальныя ланцугі чапляць трэба было, а то іх па гарызанталі і павяло..., першага ў нейкім мудрагелістым механізме з шасцяронкамі задрала, другім звычайны ступенчаты кардан абматала.

А тых, хто пасля першай шлюбнай ночы знайшоў маладую не цнатлівай і кампенсаваў падман аборкаю, і не пералічыць на пальцах. Нават дзядуля, пражыўшы са сваёй бабуляй сумесна шэсцьдзесят гадоў і на хаўтурах па ёй, даведаўшыся ад сябра дзяцінства, што нябожчыца здрадзіла яму ў шлюбную ноч, павесіў спачатку сябра дзяцінства, а потым павесіўся і сам.

З тыдзень таму панамар у прыходзе рукі на сябе накладаў, на рызінках вешаўся, марыў ад хатніх клопатаў адразу ў рай спружыніць. Гадзіны дзве гойдаўся ўніз-уверх, галавой у столь біўся, аж да пачатку службы, пакуль ад страсення мазгоў не сканаў. І адчапіцца не мог, бо ад сораму абязрызінкавыя трусы вымушан быў перыядычна з каленяў падцягваць. Хто адважыцца блюзнерыць, што панамар на сябе рукі наклаў? Як і належыць хрысціяніну, усёй

паствай ліцью спраўлялі і трусы, што панамар да лепшай долі сціскаў, зноў жа ўсёй пастве паказвалі, як сведчанне яго беззаганнай смерці. Праўда, рызінка і да сённяшняга дня вісіць грэх, кажуць, здымаць: хто зачапіў, той хай і адчэплівае. А можа, як народная мудрасць кажа, каго не задушыць, той у іншых варунках памрэ.

Сёй-той кажа: да чаго тая мудрасць! Каб цвярозымі былі, не спяшаліся, то павесіліся б лоўка, як Юда, ну, памятаеце, той, які не вытрымаў, даведаўшыся, што самога Сына Божага, як звычайнага сына цесляра, за трыццаць срэбранікаў прадаў, а мог бы ўдвая болей утаргаваць. А не... Народная мудрасць — яна і для шыбеніка мудрасць.

Вось апошні прыклад. Праўда, ён не пра павешанне, але да месца.

Суседа сваяк (таго, што тапелец; а можа таго, што забіла, не памятаю) не піў, не курыў, цяжкага не паднімаў. Нават па жонцы доўга не лазіў: інфаркту баяўся. Лёг, як звычайна, спаць і ... учадзеў. Жонка на добрым падпітку была, дачакалася, пакуль мужык засне, і да суседа збегла. І комін зачыніла, не дачакалася, пакуль у печы прагарыць.

Вось вам і новая мудрасць нарадзілася: хто не курыць і не п’е, таго чад заб’е.

Але нешта я ад шыбеніцы далёка адышоў. Раніцаю па вёсцы прайдуся, можа, хто яшчэ на жонку закрыўдаваў.

VI

Закрыўдаваў! Нават закрыўдавалі! Але на пачатку было сненне.

---

***Сненне***

*Сню, быццам нехта на падворку стрэліў. З перапалоху схапіўся за твар. А на ім вялікія бакенбарды. Яшчэ болей спалохаўся. Хаваючыся за фіранку, вызіраю ў акно і бачу: на падворку аж дзве шыбеніцы і матуз скручаны з аборак між імі нацягнуты. А на матузе*

*акурат усе вясковыя шыбенікі, як акрабацікі, скачуць, фокусы розныя паказваюць. А эшафот, бы карусель, круціцца. Вяскоўцы за яго чапляюцца, каб і ім крыху пад'ехаць, але большасць зрываецца. Мне таксама пакатацца захацелася...*

Але прачнуўся не з гэтага жадання. Вокрыкі і гоман, сабачы брэх і скавытанне дзяцей у адначас паднялі мяне з ложка. На ўсялякі выпадак позіркам пашукаўшы шыбеніцы-карусель, падышоў да натоўпу. Спачатку цяжка было штосьці зразумець: ад узбуджэння гаманілі ўсе адразу. Але паступова карціна намалявалася захапляючая.

З вечара два суседы, не тыя, што жывуць і зараз насупраць праз вуліцу, але тыя, што межавалі адным плотам, некуды выйшлі. Здагадацца не цяжка: адзін нёс вуды, другі — кошык на грыбы. Першы пайшоў да возера, другі — у супрацьлеглы бок, у лес. Абышоўшы вёску з розных бакоў, вярнуліся, але да ўласных хатаў не дайшлі. Першы, як рыба нырца, даў да жонкі грыбніка. Грыбнік вожыкам праціснуўся праз хмызняк да жонкі рыбака. Абодва пільна сачылі, каб раптам жонка да суседкі па запалкі альбо па дровы не зайшла. А каб дарма час не губляць, кахаліся ды праз кожны раз у бок свае хаты паглядалі, пільнавалі, каб да ўласнае жонкі ўласны каханы не зацягнуўся. Пад раніцу адзін аднаго і ўпільнавалі. Жанчынам часу не стала доўга лаяцца, адразу адна ў адну ўчапіліся пасярод вуліцы. Мужыкі больш кемлівымі былі. Кожны ў суседавым агародзе вешаўся: рыбак на сліве, грыбнік на алычы. Пакуль іх знялі, нехта кошык і вуды да рук прыбраў. Ім бы ўсім чатыром павесіцца... Але мужык з жонкай адначасна вешаюцца толькі ў габрэйскім рамане. Жалобны стол рабілі агульны, не было сэнсу лішнія грошы траціць, ды і ўдоваў грабары надта хутка памірылі.

Вось і сэнс снення стаў відавочным. Стрэл чуць — новыя весткі. А як жа два шыбенікі? Бакенбарды мець — задавальненне. А чаму не? Добра пад'еў, выпіў. Акрабаты на матузе — весялосць. Было, праўда, і гэта: пад заканчэнне жалобнай вячэры і пасля яе. Ну, у прынцыпе, да хаты тое-сёе з жалобнага стала ў кошыку прынёс.

Шыбеніцу бачыць — небяспека. Згодзен: з вудамі амаль што не запынілі. Карусель бачыць — да распусты. Аб гэтым у грабароў крыху счакаўшы запытаю.

VII

Відаць, на гэтым і спыніў бы аповед, ды ліст ад сябра з горада атрымаў пра выпадак нехарактэрны. Сам ён адно пра літары і піша; пра шыбенікаў не піша: баіцца, што настрашаць; адно жонку імі палохае, калі пахмяліцца альбо дагнацца хоча.

Вось урывак з ліста: “... адна жонка мела шмат каханкаў. Мужыку гэта не падабалася (не, не яе каханкі, ён быў нармалёвай арыентацыі), але, відаць, іх колькасць. Бо вымушаны быў не часцей за адзін раз на месяц начаваць ва ўласнай кватэры, калі жонкі дома не было, а ў астатнія ночы яго месца займаў чарговы каханак. Не мог ён аніяк расчуліць сваю другую палову, каб хоць і яго ў трывалую чаргу да ложка паставіла, няхай сабе і пустога, але часцей. Ён не стаў скакаць праз акно. І не таму, што не ўмеў гуляць у шахматы, і не таму, што жыў на першым паверсе, а таму, што якраз пад вокнамі яго кватэры была клумба з любімымі краскамі яго жонкі. Шыбеніцу змайстраваў з услонка і жырандолі. “Хоць перад пахаваннем дзён тры ва ўласнай кватэры адляжуся”, — марыў ён. Ужо з аборкай на шыі згадаў аб жонцы. “Відаць, вельмі засмуціцца”, — зашкадаваў ён свайго спадарожніка жыцця і ўжо хацеў аборку скінуць, але ад вялікай расчуленасці да жонкі страціў прытомнасць і ... З жырандолі яго спачатку ў трупярню завезлі, а адтуль адразу на могілкі — без ніякай чаргі. Удава сапраўды моцна засмуцілася. Кажуць, і да сённячага дня ўсё яго з сябрамі памінае”.

Мусіць, і я некалькі разоў выпадкова альфонсснічаў у гэтай пакутніцы. Шмат што сыходзіцца: нябожчык мужык, першы паверх, краскі пад вокнамі, а галоўнае, аборка на жырандолі, якую, у спадзяванні на новы шлюб, удава ўпэўнена не здымала.

Разам з гэтай кабетай заліваў яе гора чаркай і ў памяць аб яе мужыку дзяліў з ёю ложак; і звычайна, як усе прадстаўнікі моцнага полу, трэці тост падымаў за слабую і прыгожую палову чалавецтва: каб доступ да іх целаў працягваўся і пасля іх смерці, няхай і чарвякам будзе гэтак жа салодка, як некалі было і нам. Вось як атрымліваецца: гаворым для жанчын і за жанчын, а п'ём за чарвякоў.

***Эпілог***

Гэты твор нельга разглядаць як нейкі намер аўтара асабіста перапыніць жыццё на аборцы ці якім іншым шляхам. Ён на гэта не здольны, яму на гэта проста няма часу: ён увесь у пошуках шляху да новых пасій. І галоўнае, водар і прыгажосць красак меней за ўсё разлічаны для задавальнення жанчын; не забівайце краскі!

## ПРЫТЧА АБ КРАСКАХ

**Чаму ты паверыш больш:**
**яе клятвам альбо ўласным вачам?**

Лукіян з Самосы
"Размовы гетэр"

Неяк пад час пахмелля ў шынку "Магістраль", што ля стадыёна, мой выпадковы сабутэльнік распавёў пра сваю дасканалую сістэму светабудовы, у якую, на вялікі гонар, аніяк не могуць укласціся кабеты. "Яны выпадковыя і таму лішнія ў светабудове, бо бракуюць маёй сістэме," — скардзіўся мой новы сябар, не забываючыся з маёй талеркі раз-пораз кідаць што-небудзь з няхітрай пачосткі свайму беламу пудзелю.

І паколькі я пахмяляўся за грошы гэтага брахмана думкі, то як удзячнасць пад заканчэнне іх склаў яму прытчу: "Каб бачыць у звялай красцы былы бутон, трэба воля, а каб убачыць у бутоне звялую краску, спатрэбіцца ўяўленне".

**Прабач, Зямля!**
**Цябе я не пакрыўдзіў.**
**Мой лёгкі крок**
**Не пакідаў слядоў,**
**А позірк**
**Не трымаўся доўга**
**На красках**
**Летуценнае красы.**
**Прабач, Зямля...**

